# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 48 (1292) ГОД XXV БЕЛАСТОК 30 ЛІСТАПАДА 1980 г. ЦАНА 2 зл.



БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-80

Жаночая група бельскіх „Васілёчкаў“. Фота М. Шаховіча.

## НЕСМЯРОТНЫ ВОБРАЗ

На заранку гісторыі славянскіх народаў віднеюцца выдатныя постаці княгіняў. Хоць адыйшоўшыя стагоддзі спавілі іх барвовымі легендамі, надзялілі цудадзейнай моцай, аздобілі незвычайнымі ўласцівасцямі характару, усё ж для нашых часоў яны пераважна явяцца чуллівымі пястункамі, пад руплівым вокам і дбайнай рукой якіх нашыя народы рабілі свае першыя крокі. У Чэхіі гэта была мужная і трагічная Людміла, у Польшчы — паслухмяная і засмучоная па сваёй радзіме Дубраўка, у Кіеўскай Русі — ваяўнічая „вешчая“ Вольга, а ў нас, беларусаў, — настойлівая і ўлюбёная ў айчынны край полацкая князёўна Рагнеда. Звяртаемся да слаўнага імя Рагнеды якраз у гэтым 1980 годзе не выпадкова, бо роўна тысячагоддзе таму, пад датай 980 года яно ўпершыню паявілася на старонках летапісу „Аповесць мінулых часоў“ — найважнейшай крыніцы звестак пра наша сярэднявечча. Ад таго моманту пачынаецца, на самай справе, пісаная гісторыя беларусаў.

Што ж можна сказаць пра Рагнеду, мяркуючы па дайшоўшых да нас нататках летапісцаў?

Праўда, Полацк упершыню ўпамінаецца ў летапісах пад 862 г., але мы звернемся да пазнейшых часоў. Калі на вялікакняжацкім пасадзе ў Кіеве знаходзіўся Святаслаў (нарадзіўся ён каля 942 г., княжыў у 964-972 г.г.), у Полацку панаваў князь Рагвалод. Тады ў склад Полацкай зямлі ўваходзіла большасць цяперашняй тэрыторыі Беларусі. Пасля смерці Святаслава паміж яго сынамі Яраполкам, Алегам і Уладзімірам разгарэлася кровапралітная барацьба за вялікакняжацкі кіеўскі пасад. Відаць, да гэтага змагання не быў абыякавым Рагвалод, ён прыхіліўся да Яраполка. У 977 г. гіне Алег. Уладзімір, які яшчэ за жыцця бацькі „сеў“ князем у Ноўгарадзе, сабраў вялікую „раць“ і перад тым, як рушыць на Яраполка, рашыў перш за ўсё расправіцца з прыхільнікам свайго праціўніка, князем полацкім. Зачэпкі не шукаў доўга. Як паведамляе летапісец, паслаў ён Рагвалоду перадаць: „Хачу ўзяць дачку тваю сабе за жонку“. Той запытаў у Рагнеды: „Ці хочаш выйсці за Уладзіміра?“. І як трэба было чакаць ад дзяўчыны, якой даўно падабаўся князь Яраполк, яна рашуча адказала: „Не хачу разуць сына нявольніцы, хачу ісці за Яраполка“. Што ж, на такі высакамерны адказ у яе былі не абы-якія падставы: Уладзімір быў сынам Малушы — ключніцы на двары Святаслававай маці, княгіні Вольгі. І князёўне „чыстай“ крыві не да спадобы прыйшлося такое замужаства. На тое Уладзімір

(Працяг на стар. 2)

## Аляксей Сельвясюк



У школе ўсе прадметы важныя, а ў сярэдняй школе ўсе яны ў суме ствараюць поўны комплекс ведаў, авалоданне якімі чыніць чалавека адукаваным. Адно з важнейшых месц сярод шматлікіх прадметаў займае геаграфія.

У Гайнаўскім беларускім ліцэі гэтым цікавым прадметам займаецца з вучнямі настаўнік Аляксей Сельвясюк. Ён па спецыяльнасці географ, педагог высокага майстэрства. Яго ўрокі — заўсёды творчасць, характарызуюцца яны высокім навукова-метадычным узроўнем, атмасферай добразычлівасці.

Будучы ў ліцэі, заўсёды варта заглянуць у кабінет геаграфіі, пры арганізаванні якога Аляксей Сельвясюк улажыў шмат намаганняў. Ён нават сам выканаў некаторае патрэбнае абсталяванне. Для вывучэння геаграфіі ўсё тут ёсць: карты, атласы, глобусы, падручны геаграфічны кнігазбор, кускі мінералаў і скалаў — адным словам, усе наглядныя сродкі і дапаможнікі для творчага ўспрымання і засвойвання вучнямі праграмнага матэрыялу.

У пашырэнні геаграфічных ведаў вялікую ролю адыгрывае геаграфічны гурток, у якім заўсёды ёсць поўны камплект вучняў. Зразумела, працуе ён пад кіраўніцтвам Аляксея Сельвесюка, які заўсёды заахвочвае сваіх навучэнцаў уключацца ў прадметную алімпіяду. І вучні ліцэя кожны год бяруць удзел у ваяводскай геаграфічнай алімпіядзе і займаюць там добрыя месцы. Аляксей Сельвясюк умела спалучае калектыўную работу вучняў з індывідуальнай, будуючы навучальны працэс так, што ўдзельнікі алімпіяды падчас падрыхтоўкі да спаборніцтваў з вялікім зацікаўленнем, а нават з захапленнем авалодваюць ведамі і дзеляцца імі на занятках.

Як выхавацель Аляксей Сельвясюк цікава арганізоўвае бацькоўскія сходы. Да іх рыхтуюцца вучні, вучнёўскі грамадскі актыў, які інфармуе бацькоў аб поспехах у вучобе і паводзінах іх сына ці дачкі. Зразумела, калі ёсць патрэба, уключаецца і выхавацель. Але толькі тады, калі вучнёўскі калектыў не ў стане адказаць на тое ці іншае пытанне бацькоў.

Асобны раздзел педагагічнай дзейнасці Аляксея Сельвесюка звязаны са школьнай турыстыкай. Кожны год падчас канікул 20 вучняў бярэ ўдзел у вандроўных краязнаўчых экскурсіях па нашай краіне. Адбылося іх ужо 17. Дзе толькі не пабывалі: і ў Бяскідах, і на Шлёнску, і на Прымор'і, і ў многіх гарадах і рэгіёнах Польшчы. Такая турыстыка не толькі пашырае веды і прывівае любоў да сваёй Айчыны —

(Працяг на стар. 4)

ГУТАРКІ ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

Калі мая Палашка наслухалася па тэлебачанню, што ў нашай краіне таксама і з вугалем сёлета не лепш, як з мясам і цукрам, тады насела на мяне, каб як мага хутчэй паехаў у гэзсаўскі склад і атрымаў свой прыдзел чорнага топліва.

— То ж у нас яшчэ дроў на паўзімы хопіць, — гавару я ёй. — Навошта спяшаць? Цяпер часу і грошай малавата.

— Дровы нікуды з панадворка не ўцякуць, — яна мне на тое, — а вугалю ўжо зараз зусім не хапае...

— То ж сялянам, кажуць, у першую чаргу пастаўляюць. Такі загад ад урада, — талкую я маёй жонцы.

— Добра, добра, — кажа яна, — не будзь вар'ятам! Загадамі ты мне хаты не абагрэеш і абеду не зварыш. Кідай усё і адпраўляйся за вугалем! — распарадзілася мая Палашка. Што было рабіць?

Праз паўгадзіны я быў ужо на дарозе. Мароз стаяў невялікі, але вецер назойліва пранікаў за каўнер і халоднымі шпількамі калоў у шыю, бараду, у шчокі. Мерзлі ногі, бо спяшаючыся, замест валёнак я абуў гумовыя боты.

*„Няўжо ж зіма сёлета распачнецца ў нас восенню?“* — падумаў я. Яшчэ толькі гэтага нам да шчасця зараз не хапала! Але праз хвіліну прыйшла мне ў галаву іншая думка: ці не занадта часта шукаем мы прычыны нашых гаспадарчых непаладкаў у стыхійных няшчасцях. То засуха, то паводка, то мароз. І каторы год ужо па чарзе! Пара б да таго ўсяго прывыкнуць і лічыць усё гэта нармальнымі ўмовамі нарыхтоўкі сельскагаспадарчых прадуктаў. Вядома, такога падыходу да справы трэба патрабаваць не толькі ад хлебаробаў, а перш за ўсё ад прамысловасці, якая працуе для патрэб вёскі, і ад усіх іншых устаноў, якія абслугоўваюць

## ХТО ВАР'ЯТ?

сельскую гаспадарку. Чытаў я недзе, што амерыканскія ці галандскія фермеры патрапяць даць харчаванне шасці-васьмі чалавекам з горада і яшчэ астанецца ім шмат чаго на продаж за мяжу. А ў нас адзін гаспадар не ў сілах пракарміць нават двух чалавек!

Толькі ці вінаваты тут адны хлебаробы? Найперш даймала нас прагрэсія і абавязковыя пастаўкі. А калі прыйшоў канец гэтаму, ізноў бяда. За электрыфікацыю — плаці, за меліярацыю — плаці, за пенсію на старыя гады — хаця з яе і не скарыстаеш — таксама плаці. І ўсё ад гектара, ад даходлівасці, а не за фактычна зробленую ў цябе работу. Дам вам прыклад: дзесяты год плачу я па 500 зл. на конта воднай суполкі, нібыта за ўтрыманне ў гатоўнасці меліярацыйных канаваў, але дагэтуль яшчэ я не бачыў на сваёй сенажаці аніводнага чалавека, які пачысціў бы мне гэтыя равы. Пасля сёлетняй паводкі іх ужо цалкам занясло. Навесну самому прыдзецца закасаць рукавы і памахаць лапатай, бо інакш сена — як у пакойнага бацькі калісьці бывала — прыдзецца вяроўкамі на хрыбце з балота выцягваць.

А надабавак у цэнтральным планаванні нашы справы адсоўвалі на апошні план. Толькі 4 працэнты сваёй вытворчай сілы прызначала наша прамысловасць на забеспячэнне гаспадара неабходнымі яму машынамі і прыладамі.

І пры гэтым цэны!

Трактар — такі як мой, толькі, зразумела, новы, дзесяць гадоў таму назад каштаваў 95 тысяч злотых, а цяпер ён каштуе ўжо на 50 тысяч больш. Плуг, звычайны жалезны плуг, для запрэжкі ў аднаго каня, тады каштаваў 400 зл., зараз — 700 зл. Барана — 320 і 600 зл. Вілы — прылада ў гаспадарцы першай патрэбы, хаця і зусім простая — цана на іх падскочыла з 20 зл. на 40. І так можна было б разглядаць кожную дэталь.

Ну так, я ведаю, што не стаялі на месцы і цэны на сельскагаспадарчыя прадукты. Напрыклад, за адзін кілаграм жывой вагі адкормленага парсюка дзесяць гадоў таму назад плацілі 22 зл., а зараз удвая больш. Падвоілася таксама цана на ялавічыну і малако. Цэнтнер жыта каштуе зараз на 150 зл. больш. Не гавару ўжо пра бульбу і

(Працяг на стар. 5)

Імпартгумар

# СІЛА ЗВЫЧАЯ

Цыгану выдалі ордэр на кватэру ў новым доме. З трох пакояў. На другім паверсе.

Цыган з ордэрам бягом у выканком. Стукае ў дзверы старшыні. Усхваляваны, незадаволены паклаў на стол заяву. Яшчэ і далонню ляпнуў:

— Пішы!

— Што пісаць?

— Коса!

Старшыня нічога не разумее. Адкуль такая незадаволенасць? Чаго такая паспешлівасць? І нават абурэнне?

— Пішы! — паказвае пальцам на ражок у заяве. — Тут — усё ясна... Толькі — першы паверх!

— Першым, мілы мой, забяспечыць не можам, — прачытаўшы паперку, цярпліва пачаў растлумачваць старшыня выканкома. — Разумееце, інвалідам, хворым, старэнькім далі ніжэй. А вы... вы ж яшчэ такі...

— Правільна — такі! Правільна гаворыш, начальнік! Падпішы.

— Не падпішу.

— Падпішы, каяцца не будзеш.

— Што значыць — каяцца не будзеш?..

Старшыня не падпісаў заяву.

А праз тыдзень жыхар, які пасяліўся пад кватэрай цыгана, прыбег у кабінет старшыні выканкома. Збянтэжаны, заікаецца, нешта рукамі паказвае.

— Што здарылася?

— Пятая ноч... грук-грук... Заснуць не даюць... Хадзем, прашу, паглядзім, што там робіцца...

— Ды што вы? У мяне няма часу хадзіць да кожнага навасёла. — Старшыня пачаў разважаць: — Наваселле, значыцца, цыган спраўляе. Танцуюць, кажаце, цыганы... Штосьці доўга, пара і меру ведаць... Хоць яны, самі разумееце, песенны народ... Да таго ж — танцоры... Я помню аднаго чарнявага, малога — на жывое скакаў.

— В-во, в-во, — заікаецца наведвальнік. — І... і на г-галаве. Да с-самай р-раніцы.

— А вы б па-суседску зайшлі да яго, паглядзелі. Калі так, то мы яго, танцора, прыструнім, — абяцае старшыня. — Папярэдзім. Гэта не ў табары...

У гэты момант дзверы адчыніліся і ў кабінет заглянуў яшчэ адзін наведвальнік. Першы наведвальнік абрадаваўся, ускрыкнуў:

— Заходзьце, сусед! Пацвердзіце пра гэтага цыгана...

— Я ўжо быў у яго, — адказаў той, пераступіўшы парог. — Уявіце сабе, гэты цыган у кватэру каня зацягнуў! Паставіў перад ім мяшок аўса. Стаіць гэткі грывасты стаеннік, вушамі стрыжэ і капытамі прытупвае...

— Дык вось чаму ён прасіў кватэру на першым паверсе, — засмяяўся старшыня. — Ну ад гэтых звычаяў продкаў яму давядзецца адвыкаць.

**Іван Грымовіч**

— Ну і што? Ён сын начальніка турмы!

# НІЎКА

— Добра, што іх за коскі тузаць не навучылі.

## РУКА ШАРАКА

*Шарак-ляснічы даў каманду:*
*— Даволі нам зайцоў пужаць.*
*Іх на адказныя пасады*
*Таксама трэба вылучаць...*

*І ў лесе нашым, ля балота,*
*З нядаўніх пор, з нядаўніх дзён*
*Замест Мядзведзя на калоду*
*Усеўся Зайчык-маладзён,*

*Прызначыў лектарам Сароку,*
*Запрог Крата на лета ў плуг.*
*І да яго паставіў збоку*
*Ласёў-рахункаводаў двух.*

*Мядзведзя выгнаў нават з лесу.*
*Бабра — ні кроку на парог.*
*А Тхор адразу ж нос павесіў,*
*Ад страху ў бальніцу злёг.*

*Вяршыць Касы ў лесе справы.*
*Крый, Божа, трапіць пад руку!*
*Ён за капусную патраву*
*Вымову ляснуў Барсуку.*

*Дайно б Касому даць па шапцы,*
*Ды не выходзіць аніяк.*
*У яго ўтрымацца ўсё ёсць шанцы,*
*Пакуль ляснічым цесць Шарак.*

**Уладзімір Фамін**

## ЧОРНЫ ДЗЕНЬ

Маланка крадком хавала ад Кастуся грошы. Аднойчы заглянула яна ў схованку, а грошы пасеклі мышы на дробненькія шматкі. Яна плачучы расказала Кастусю пра сваё гора.

— А навошта ж ты хавала? — пацікавіўся Кастусь?

— Ды на чорны дзень.

— Ну, вось лічы, што для цябе, жонка, сёння і настаў чорны дзень.

Без слоў.

## ГУМАР З БАРАДОЮ

Царскі суддзя пытаў па-руску ў беларускага селяніна:

— Скажите, каким образом он вас ударил?

— Ды не абразам, а звычайнай качарэжкаю.

**Пайшоў вартаўніком на будову, патрэбна цэгла для новай хаты.**

## ПРЫГОЖЫЯ

— Ну, як маладыя? — спыталі ў задрыпанкі, якая вярталася з вяселля.

— Маладыя як маладыя. Прыгожыя! — адказала тая і дадала: — Толькі малады крыху гарбаценькі і твар яго рабацініста. А ў маладой усмешка нейкая кіслая, рот крыху крываваценькі і правая ножка неяк унутр павернута.

## ДОБРЫЯ ПОСПЕХІ

— Як вашы другакласнікі прыклады рашаюць? — запыталі ў настаўніцы пачатковай школы.

— Добра рашаюць. Толькі Пеця неяк не можа навучыцца складаць з пераходам праз дзесятак, а Вася табліцу множання яшчэ цвёрда не засвоіў.

— А колькі ў вас вучняў у другім класе?

— Ды два чалавекі.

## ВУГЛЫ

— Вашы артысты не рэпецiруюць, а ходзяць з кутка ў куток, — незадаволена заўважыў дырэктар тэатра.

— З гэтым будзе пакончана, — запэўніў рэжысёр. — Хутка ў тэатры абсталююць круглую сцэну...

Кожнаму сваё хобі.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Гаспадыня спявае ў гасцінай. Раптам яна спыняецца і крычыць пакаёўцы:

— Мары, не дазваляйце сабаку выць, калі я спяваю!

— Гэта не сабака, мадам. Гэта мсье.

*

Перад узлётам сцюардэса раздала ўсім жавальную гумку і вытлумачыла, што жаванне засцерагае ад шуму ў вушах. У канцы палёту да яе падышла бабулька і сказала:

— Мілая, а хто цяпер выцягне мне гэту дрэнь з вушэй?

З „Весніка Задрыпоніі"

## ТОЛЬКІ „КАХАЕ"

Дваццаць год навуковага пошуку аддаў батанік Лапух, каб вывесці семя рамонку, які заўсёды заканчваецца на „кахае".

## ПЫТАННЕ ГАПКІ

Якое пагалоўе казлоў адпушчэння?

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Багдана Сіманенкі, Янкі Карчэўскага і Яраслава Зайкоўскага, вучняў бельскага белліцэя, змяшчаем песню*

## TYLKO CIEBIE MI BRAK

Dziś na ścianie wydrapałem
Łyżką twoje inicjały.
I kotwicę już łykałem,
Bo wspomnienia spać nie dały.
Obudziłem się wymięty,
Cały mokry i zmęczony.
Dzielą nas krat grube pręty,
Czuję miękkość warg spragnionych,..

Tylko mi ciebie brak w tym więźniu,
I tylko mi ciebie brak, ciebie tu,
ciebie tu,
Tylko mi ciebie brak w tym więźniu,
I tylko mi ciebie brak, ciebie tu.

Dzień za dniem się wlecze wolno,
Wlecze się za nocą noc.
Jak mi ciężko tu bez ciebie,
Wie zniszczony, stary koc.
Jak mi ciepła ust twych braknie
I harców w miłosnej grze,
Wie ten stary koc zniszczony,
On tu tylko o tym wie.

... Jak bardzo...

Czy pamiętasz te gorące
Noce nasze nieprzespane,
Te miłością pałające
Słowa nam też dobrze znane.
Kaloryfer nie zastąpi
Ud gorących pożądania,
Kiedy to się wreszcie skończy,
Znowu dzisiaj nic ze spania...

... Bo tylko mi ciebie brak...

Błyszczą sznyty na mych rekach,
Już na dworze całkiem ciemno.
Gdzieś na pryczy sąsiad steka,
Kiedy będziesz razem ze mną.
Kiedy watłe twe paluszki
Pogładzą me tatuaże.
Kiedy szczupłe twoje nóżki
Oplotą mnie żądne wrażeń.

I tylko mi ciebie brak...

Znowu paczkę dziś dostałem
Zawiązaną twoja ręką.
Całą noc gorzko płakałem,
Wszystko we mnie zmiękło, pękło.
W paczce były: chleb, kiełbasa,
Papierosy, puszka mleka,
A na karcie napisane:
Słowa trzy: „Ja kocham, czekam".

I tylko mi ciebie brak...

Oj, Stefan, jak mi ciebie brak...

# КУРЁЗЫ

## ЖАНЧЫНЫ Ў КАЗАРМАХ

Узброеныя сілы ЗША, піша амерыканскі часопіс „Юс ньюс энд Уорлд рыпарт", настолькі залежаць ад жанчын-добраахвотніц як афіцэраў, так і радавога і сяржанцкага саставу, што ім цяжка абысціся без іх. Калі ў 1972 годзе ў арміі было 45 тысяч жанчын, што складала 1,6 працэнта ўсяго асабовага саставу, то цяпер іх колькасць патроілася: 150 тысяч жанчын на 2 мільёны ваеннаслужачых ЗША. Як лічаць у Пентагоне, да 1985 года колькасць жанчын-ваенных перавысіць 250 тысяч.

## 2500 МІЛЬ НА КАНОЭ

Ёсць шмат спосабаў дабрацца з Гавайскіх астравоў да Таіці. Група мараплаўцаў на чале з 27-гадовым Н. Томпсанам праплыла гэты шлях на палінезійскім каноэ-катамаране. Бадай, упершыню за апошнюю тысячу гадоў было зроблена падарожжа ў 2500 марскіх міль без сучасных навігацыйных прыбораў. У час пераходу прымяняліся толькі тыя прыстасаванні, якімі ў свой час карысталіся продкі сучасных палінезійцаў.

Нават наручныя гадзіннікі ўсе члены экіпажа (а іх было чатырнаццаць, уключаючы дзвюх жанчын) у першы ж дзень здалі капітану. Рыхтуючыся да падарожжа, Томпсан, гавяец па нацыянальнасці, тры гады вывучаў астранавігацыю. У выніку, арыентуючыся толькі па сонцу і зорках, ён ні разу не збіўся з курсу.

**Калі сумленне мучыць па начах, значыць днём яно спіць.**